На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

№ 180 (532)

Серада, 7 кастрычніка 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



## За выдатную работу — ганаровыя званні

Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка 5 кастрычніка падпісаў указы аб прысваенні ганаровых званняў. У прыватнасці, за заслугі ў арганізацыі медыцынскага абслугоўвання сельскага насельніцтва галоўнаму ўрачу Улукаўскай участковай бальніцы тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання Гомельскага раёна **БАЛАКІРАВУ Ігару Васільевічу** прысвоена ганаровае званне "Заслужаны ўрач Рэспублікі Беларусь".

Ганаровае званне "Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь" прысвоена акадэміку-сакратару Аддзялення біялагічных навук, дырэктару Інстытута мікрабіялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі **ЛАБАНКУ Анатолю Георгіевічу**. Гэтага звання вучоны ўдастоены за вялікі асабісты ўклад у развіццё навуковых даследаванняў па мікрабіялогіі і біятэхналогіі.

**БелТА.**

## Белорусские кулибины подтвердили свое реноме

Пяти золотых медалей удостоены белорусские разработчики на прошедшей в Софии Международной выставке изобретений и инноваций "Восток—Запад. Евроинтеллект". Высшими наградами были отмечены работы, выполненные на основе изобретений клапана искусственного сердца, электромагнитного импульсатора защиты от накипи, ветроэнергетической станции и другие.

Как сообщили корреспонденту БелТА в Государственном патентном комитете, участие в этом форуме изобретателей для отечественных кулибиных было удачным. Свидетельство тому — "урожай" наград и присуждение белорусской экспозиции приза зрительских симпатий.

По мнению специалистов патентного ведомства, это позволяет сделать вывод о том, что республика не потеряла имиджа страны с высоким интеллектуальным уровнем работников. В различных отраслях народного хозяйства есть высокие потенциальные возможности бороться с конкурентами за перспективные рынки сбыта продукции.

**Игорь ХОМИЧ.**

## Беларускі дзяржаўны ансамбль "Харошкі" адкрыў свой юбілейны — 25-ы канцэртны сезон

У памяшканні Дома афіцэраў адбылося адкрыццё новага канцэртнага сезона Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі", якім вось ужо 25 гадоў кіруе Валянціна Гаявая — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі і народная артыстка Беларусі.

У праграму "Добры вечар" увайшлі 18 лепшых нумароў. Гэта традыцыйны для "харошак" беларускі вясковы фальклор, новыя аўтарскія пастаноўкі, створаныя на аснове гарадскога фальклору і знакамітых шлягераў, харэаграфічная навела "Па старонках "Полацкага сшытка".

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН намеснік дырэктара ансамбля па канцэртнай дзейнасці Ігар Ларчанка, у сярэдзіне кастрычніка Беларускі дзяржаўны ансамбль "Харошкі" запрошаны ў Германію для ўдзелу ў гала-канцэрце, прысвечаным адкрыццю газаправода пад Ла-Маншам.

**Таццяна ЛУКАШЭВІЧ.**

## Названы пераможцы міжнароднага тэатральнага фестывалю "Белая вежа"

У Брэсце завяршыўся трэці міжнародны тэатральны фестываль "Белая вежа". На працягу чатырох дзён калектывы з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі, Літвы, а таксама артысты з Італіі, Турцыі і Бразіліі радавалі брэстаўчан і гасцей горада цікавымі пастаноўкамі на сцэнах Тэатра драмы і музыкі і лялечнага тэатра.

У нядзелю вечарам адбылося ўрачыстае закрыццё фестывалю. Спецыяльнымі прызамі ўзнагароджаны калектыў Брэсцкага тэатра лялек за пастаноўку спектакля "Сіняя птушка" і Тэатр харэаграфіі з Бона за пастаноўку "Яблычных гульняў". Прыз за лепшую ролю сярод лялечнікаў павезла Ларыса Гарлінская, актрыса Луцкага тэатра лялек. Лепшай драматычнай актрысай фестывалю названа брэстаўчанка Алена Ягорава, якая пакарыла журы роляй Аглаі ў п'есе "Цыганскі кароль". Лепшым драматычным акцёрам стаў кіяўлянін Віталь Лінецкі за ролю ў спектаклі "Крыху віна... альбо 70 абаротаў". Лепшым рэжысёрам фестывалю прызнаны Войцэх Камбжыньскі, які прадстаўляў Беластоцкі тэатр лялек.

Гран-пры — Белую вежу працы мастака-эмальера Мікалая Кузьміча і брэсцкія дываны — атрымалі спектаклі Мінскага акадэмічнага тэатра імя Горкага "Ваўкі і авечкі" і Віцебскага тэатра "Лялька" "Чароўная зброя Кендзо".

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

**Стоп-кадр**



Хоть бы досталось.

**На заметку**

## Услуги частных нотариусов подорожали

Новые, увеличенные тарифы на услуги частных нотариусов установлены в Беларуси с 1 октября. Теперь граждане лишний раз подумают, прежде чем обратятся к ним за получением нужных документов. Такое развитие событий ставит под угрозу продолжение деятельности в республике самого института частного нотариата из-за явной его нерентабельности.

Введение новых тарифов обсуждалось заинтересованными органами в августе, и общее собрание членов Белорусской нотариальной палаты решило продолжить деятельность частных нотариусов до 1 октября — срока, с которого условия оплаты их услуг дорожают. Министерство юстиции страны намерено после 15 ноября проанализировать практику применения новых тарифов на услуги частных нотариусов и сделать необходимые выводы.

Одновременно Минюст заверил граждан, что они не будут испытывать неудобств, если частные нотариусы прекратят свою деятельность. Пока лишь единицы из них сдали свои лицензии. Остальные решили продолжить работу до середины ноября.

**БелТА.**

**Надвор'е**

7 і 8 кастрычніка на тэрыторыі рэспублікі захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер паўночны, з пераходам на паўднёва-ўсходні, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ўначы 0...-5, удзень +4...+9.

**Выставы**

## Усё для лясной індустрыі будзе паказана ў Мінску

Увесь спектр абсталявання і інструмента для лесанарыхтоўчых і дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, навінкі мэблевай галіны і іншыя тавары народнага спажывання будуць прадстаўлены на выстаўцы "Дрэваапрацоўка-98". Яна арганізавана ўжо чацвёрты раз кампаніяй "МінскЭКСПО" пры садзейнічанні міністэрстваў прамысловасці і лясной гаспадаркі Беларусі і пройдзе з 13 па 16 кастрычніка ў выставачным павільёне па праспекце Машэрава.

Сёння 35,5 працэнта тэрыторыі нашай рэспублікі пакрыта лесам. На душу насельніцтва прыпадае 106 кубічных метраў запасу драўніны, што значна перавышае адпаведны паказчык прамыслова развітых краін Заходняй Еўропы. Дастатковыя запасы сыравіны абумоўліваюць вельмі стабільнае становішча галіны, што стварае перадумовы для ёмістага, перспектыўнага рынка машын і абсталявання, што выкарыстоўваюцца ў гэтай галіне. Пазнаёміцца з найноўшымі з іх прапануюць мінскія станкабудаўнічы і інструментальны заводы, ВА "Тэхнапрыбор" і ААТ "Гомельдрэў", ТАА "Белабразіў" і ЗАТ "Беллестэхмантаж".

Усяго ж пад сваім дахам выстаўка збірае больш за сто ўдзельнікаў з 13 краін свету. У ёй прымаюць удзел вядучыя фірмы Германіі і Даніі, Італіі і Францыі, Фінляндыі і Швецыі, краін СНД, Балтыі і Польшчы.

На думку арганізатараў мерапрыемства, "Дрэваапрацоўка-98" у чарговы раз стане ідэальнай платформай як для прэзентацыі новай тэхнікі, так і для ўстанаўлення ўзаемавыгадных дзелавых сувязей.

**Тэрэза ХАЮЦІНА.**

## Гандлёвыя прадпрыемствы Гомеля аштрафаваны на 1 мільярд рублёў у выніку працы інспекцыі па кантролі за цэнамі

На 1 мільярд рублёў папоўніўся дзяржбюджэт у выніку працы інспекцыі па кантролі за цэнамі Гомельскага гарвыканкама.

На працягу апошняга месяца інспектары правяралі прадпрыемствы гандлю ўсіх форм уласнасці на прадмет выканання дысцыпліны цэн на прадукты харчавання, якія маюць дачыненне да так званага "крытычнага імпарту" — алей, морапрадукты, цытрусавыя. Па выніках праверкі аштрафавана 21 прадпрыемства, дзе былі выяўлены перавышэнне дазволенай 20-працэнтнай надбаўкі на цэны на тавары або ўтойванне інфармацыі пра пастаўшчыкоў.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ,**

**Спорт**

## До Белграда минский СКА все же долетел, до Лиги чемпионов — пока неизвестно

Гандболисты минского СКА, самолет с которыми 2 октября не был пропущен через воздушное пространство Венгрии, все же добрались до Белграда и на следующий день провели там матч 1/16 финала Кубка европейских чемпионов с местной командой "Црвена звезда". Он закончился победой югославской команды со счетом 30:22. После нескольких часов ожидания на аэродроме Мачулищи под Минском транспортному самолету белорусских ВВС со спортсменами на борту удалось подняться в воздух только к вечеру. Службы управления воздушным движением Румынии, в отличие от венгерских, дали "добро" на его пролет над территорией своей страны.

Ответный матч состоится в ближайшее воскресенье в минском Дворце легкой атлетики СКА (начало — 16.00). Чтобы попасть в престижный турнир Лиги чемпионов, армейцам необходимо отыграть у соперника восемь мячей.

К слову, их младшие одноклубники в нынешнем еврокубковом сезоне свое уже отыграли. В 1/16 финала Кубка кубков СКА из Минской области дважды встречался с киевским ЦСКА. Итог — поражения со счетом 22:34 и 20:31.

Перед ответными поединками мало шансов на выход в следующую стадию сохраняют и другие белорусские клубы, первые гостевые поединки дружно проигравшие. Так, у женщин в Кубке чемпионов минский "Политехник" уступил словенской "Крим Электе" со счетом 29:39; в Кубке кубков столичный РШВСМ-РУОР проиграл румынскому "Силкотубу" — 24:33; в Кубке городов гомельский "Университет" был разгромлен украинским "Автомобилистом" — 24:45; наконец, в Кубке ЕГФ белыничская "Друть-Белпак" проиграла греческому "Филиппосу" со счетом 20:27.

**Дмитрий ЕРМАК.**



## Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская не траціць надзеі на канструктыўны дыялог з кіраўніцтвам рэспублікі

Кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ) накіравала прэзідэнту рэспублікі ліст, у якім прапаноўвае Аляксандру Лукашэнку сустрэцца з членамі прэзідыума Савета ФПБ. Неабходнасць такой сустрэчы, як значыцца ў лісце, выклікана абвастрэннем сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Апошняя сустрэча прэзідэнта з актывам ФПБ адбылася ў лютым 1996 года.

Сталі таксама вядомыя тэрміны правядзення трохбаковага Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях, пасяджэнне якога намячалася на 1 кастрычніка, аднак было перанесена па ініцыятыве ўрада. Новая дата пасяджэння савета — 9 кастрычніка. Яго ўдзельнікі абмяркуюць актуальныя сацыяльна-эканамічныя пытанні, у тым ліку звязаныя з аплатай працы. На гэтым жа тыдні павінна прайсці сустрэча старшыні ФПБ Уладзіміра Ганчарыка з кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта Міхаілам Мясніковічам.

Чакаецца, што вынікі пасяджэння Нацыянальнага савета і сустрэчы У.Ганчарыка з М.Мясніковічам будуць падведзены на прэзідыуме Савета ФПБ, які пройдзе напрыканцы тыдня. Кіраўніцтва ФПБ таксама абмяркуе далейшую праграму сваіх дзеянняў. Як вядома, федэрацыя яшчэ не вызначылася на прадмет удзелу ў агульнарэспубліканскай акцыі пратэсту, якую Беларуская асацыяцыя незалежных прафсаюзаў прамысловасці плануе правесці 4 лістапада.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

## Библиотекарь может спать спокойно

В Белорусской сельскохозяйственной библиотеке установлена новая система защиты книжного фонда от несанкционированного выноса документов.

Система защиты устроена таким образом, что она пресекает попытку украсть книгу или вынести ее по забывчивости. При этом она позволяет свободно выносить книги, зарегистрированные библиотекарем. Главный же эффект системы состоит в возможности перестроить библиотеку на более удобный и демократичный режим ее использования.

Система была поставлена в Беларусь местным представительством всемирно известной американской фирмы "Чекпоинт", специализирующейся на создании и производстве охранных установок для магазинов и библиотек. Первая в нашей стране система была закуплена именно Белорусской сельскохозяйственной библиотекой.

**БелТА.**

## Інфармацыйнае агенцтва ЗША аб'явіла аб пачатку конкурсу на атрыманне грантаў у рамках трох праграм, якія фінансуюцца амерыканскім урадам

Інфармацыйнае агенцтва ЗША аб'явіла аб пачатку конкурсу на атрыманне грантаў па трох праграмах, якія поўнасцю фінансуюцца ўрадам Злучаных Штатаў і праводзяцца сумесна з Амерыканскім саветам па супрацоўніцтве ў галіне адукацыі і вывучэння моў.

Адна з праграм — сумесная Эдмунда С. Маскі і "Акта ў падтрымку свабоды" — мае на мэце прадаўжэнне вышэйшай адукацыі на магістрскім узроўні ў вядучых універсітэтах ЗША ў 1999 годзе па наступных спецыяльнасцях: кіраванне бізнесам, эканоміка, адукацыя, журналістыка, юрыспрудэнцыя, бібліятэчная справа, грамадскае адміністраванне, ахова здароўя, паліталогія, а таксама (упершыню ў гэтым годзе) міжнародныя адносіны. Праграма "Рэгіянальныя вучоныя" прадугледжвае чатырохмесячную стажыроўку ў ЗША для выкладчыкаў ВНУ. І, нарэшце, трэцяя праграма — "Акт у падтрымку свабоды" — дае магчымасць студэнтам 1—3-х курсаў прайсці навучанне ў ВНУ ЗША на працягу года па спецыяльнасцях: бізнес, эканоміка, адукацыя, сацыялогія, журналістыка і іншыя.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

**Сітуацыя**

## Забылі націснуць на кнопку...

Вельмі здзіўлены і абураны былі ў панядзелак раніцай бацькі, якія прывялі сваіх дзяцей у 117 сад Цэнтральнага раёна горада Гомеля. Пасля выхадных у памяшканнях дашкольнай установы быў такі холад, што дзяцей нават распранаць было небяспечна. Хоць, паводле слоў загадчыка гарана Вадзіма Сабко, усе школы і дзіцячыя ўстановы гатовы да зімы і засталося толькі, як кажуць, націснуць на кнопку. Але, ідучы на выхадныя, ніхто з адказных работнікаў не паклапаціўся аб ацяпленні памяшканняў.

**Віктар КОТАЎ.**

## Арыштавана група аўтамабільных злодзеяў

Група злосных аўтамабільных злодзеяў папалася з чарговай украдзенай машынай. Іх затрымалі ў Мсціслаўскім раёне ў ходзе аперацыі "Граніца" работнікі ўпраўлення па Магілёўскай вобласці Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй пры МУС Рэспублікі Беларусь і супрацоўнікі мясцовага РАУС. Аўтаўгоншчыкі спрабавалі пераправіць праз граніцу ў Расію яшчэ адну машыну замежнай маркі. Як высветлілася ў ходзе папярэдняга следства, у склад гэтай злачыннай групы ўваходзіла шэсць чалавек. Усе яны жыхары Оршы ва ўзросце ад 17 да 20 гадоў, якія нідзе не працуюць. Да гэтага ўчынілі больш чым пятнаццаць злачынстваў. Укралі некалькі легкавых аўтамашын з Віцебскай і Магілёўскай абласцей, займаліся рабаваннем. У шасцёркі канфіскаваны дзве аўтамашыны, якія яны не паспелі пераправіць праз граніцу і прадаць.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ва ўпраўленні па Магілёўскай вобласці Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, уся група аўтаўгоншчыкаў арыштавана і вядзецца следства.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БелТА.**

**Здарэнні**

## Пажар на льнозаводзе

Прыкладна тры мільярды рублёў — у такую суму ацэнены ўрон ад пажару, які здарыўся на Дварэцкім ільноперапрацоўчым заводзе ў Дзятлаўскім раёне. Як стала вядома карэспандэнту БелТА, агнём знішчана амаль палавіна з 1095 тон ільнотрасты, што ляжала пад павеццю. Астатнюю ўдалося выратаваць. Акрамя таго, не дапусцілі распаўсюджвання пажару на трасту, складзеную ў сціртах, што стаялі побач.

У тушэнні пажару, які ўдалося лакалізаваць за некалькі гадзін, удзельнічалі больш за два дзесяткі адзінак тэхнікі з Дзятлава, а таксама Ліды, Навагрудка і Баранавіч. Для ліквідацыі вынікаў пажару на працягу двух сутак акрамя спецыяльнай тэхнікі прыйшлося задзейнічаць звычайны аўтатранспарт. Рэшткі трасты вывозілі з месца здарэння для наступнай сарціроўкі.

На думку спецыялістаў, узгаранне ўзнікла ад траснпарцёра, прызначанага для падачы трасты пад павець. А вось прычыну яго трэба будзе высветліць следству, якое пачалі праваахоўныя органы.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ.**

## Тэрор дабраўся да глыбінкі

Як і чакалася, услед за расійскай глыбінкай хваля дзікіх крымінальных разборак дабралася і да нас. Пад раніцу, 2 кастрычніка, магутны выбух разбудзіў шматлікіх жыхароў райцэнтра Гарадок. У паветра не толькі ўзляцеў джып мясцовага прадпрымальніка М., але ў полымі згарэлі яшчэ тры аўтамабілі, прыпаркаваныя побач. Хапіла турбот работнікам размешчанага побач дзіцячага садка, якім прыйшлося ўстаўляць павылятаўшае ад узрыўной хвалі шкло з вокнаў. Насцярожвае, што гэта ў маленькім правінцыйным гарадку другое за кароткі тэрмін пакушэнне на прадпрымальніка.

У канцы жніўня ў адной з машын быццам адбылося замыканне праводкі, і легкавушка загарэлася. А вось у Чашніцкім раёне разборкі прывялі да жудаснага канца. Труп мясцовага камерсанта быў знойдзены ўвесь у сіняках, крыху прысыпаны зямлёю ў адным з кар'ераў. Не даюць спакою злодзеям зробленыя кімсьці грошы і трывожыць, што такія з'явы могуць пашырацца.

**Уладзімір ШЫК.**

**Зеркало**

## МВФ предостерегают от дальнейших займов России

**"Вашингтон пост" (США):**

"Бывший глава Госналогслужбы Борис Федоров заявил, что МВФ не следует одалживать его стране еще денег до того, как будут продемонстрированы "жесткие" экономические реформы. Он заявил, что вместо того, чтобы стимулировать экономические реформы, международный пакет помощи в 22,6 млрд. долл., согласованный минувшим летом, имел противоположный эффект. По мнению Федорова, вместо укрепления финансовой дисциплины правительство воспользовалось этим займом. "МВФ должен усвоить урок последних пяти лет и он только один: если вы действительно хотите реформ, не давайте денег сразу. МВФ притворялся, что он видит реформы, Россия притворялась, что проводила их, а за все это платили западные налогоплательщики", — сказал Федоров.

Увольнение Федорова явилось тяжелым ударом для крыла реформаторов, и теперь все принимаемые решения в правительстве Примакова оказались в руках коммунистов и бывших советских лидеров.

Комментарии Федорова по поводу займов МВФ оказались крайне некстати для нового правительства, которому необходим транш в 4,3 млрд. долларов для выплаты 4 млрд. долларов иностранным кредиторам. По мнению Федорова, МВФ должен потребовать в обмен на деньги выполнения жесточайших условий, например, введения "валютного управления", в рамках которого каждый рубль был бы обеспечен долларами.

Федоров считает, что президент Ельцин 99 процентов своего времени посвящает таким глобальным вопросам, как оборона и национальная безопасность, оставляя экономику в руках некомпетентных, неэффективных и неопытных премьер-министров. На вопрос о том, хорошо ли Примаков понимает экономику, Федоров ответил: "Практически совсем не понимает". Он охарактеризовал Примакова как еще одну компромиссную фигуру, которая будет проводить провальную политику и терять время. "Виктора Геращенко он назвал "катастрофой". По мнению Федорова, рубль, который летом стоил 16 центов, вскоре будет стоить три цента. Правительственный план снизить НДС (лучше всего собираемый налог в России) он назвал "глупостью", а надежды пополнить бюджет за счет введения монополии на алкоголь — "наивными".

## Ельцинский остров Святой Елены

**"Вельт" (ФРГ):**

"Никогда прежде, за исключением тех часов, когда он лежал на операционном столе, президент России не был столь беспомощен, как сейчас. Его телевыступления превратились в гротеск, когда он приветствует новых членов кабинета, забывая при этом их имена и ожидая от них первых успехов "уже завтра". Без сомнения, у Ельцина, в отличие от геронтократа Леонида Брежнева, бывают просветления, но 68-летний человек уже не может надолго сконцентрироваться. С того момента, когда рухнул рубль и над Кремлем воздвиглась гора долгов, исчезла и его репутация — человека, по крайней мере умеющего обеспечить стабильность на низком уровне.

В российских газетах о первом человеке государства появляются только насмешки. Когда он по дороге домой решил посетить продовольственный магазин и колонна бронированных "мерседесов" свернула с разделительной полосы к обочине, "Московский комсомолец" на следующий день вышел с аншлагом "У Ельциных кончились запасы". А как писала "Комсомольская правда", "в 15.48 президент спустился с небес на грешную землю и зашел в продовольственный магазин... Особенно испугала президента цена на колбасу в 59 рублей за килограмм".

Потеря авторитета отражается и на внутренних взаимоотношениях власти. Решение выдвинуть на пост Евгения Примакова означает конец президентской власти в России. Впервые Ельцин в ключевом вопросе должен был подчиниться парламенту. И пока президент, наделенный гигантскими полномочиями, превосходящими полномочия царя Николая II, сидит в загородной резиденции "Горки-9", Примаков в качестве эрзац-президента вершит политику".

## Фантастические зарплаты в Банке России

**"Вангуардиа" (Испания):**

"Бывший председатель Центробанка России Сергей Дубинин, смещенный с этого поста в сентябре, заработал в прошлом году 36 млн. песет в виде зарплаты. Это больше, чем получил жалованье президент США Билл Клинтон и почти в два раза превышает доходы его коллеги, главы Федеральной резервной системы США Алена Гринспена. Это явствует из официальной декларации Дубинина о доходах.

Он признал, что его месячное жалованье составляло 3 млн. песет, что в 40 раз больше, чем у президента Ельцина. Средняя зарплата врача, служащего или учителя составляет около 15 тыс. песет.

Подчиненные Дубинина также получали щедрые зарплаты. Но самое удивительное заключается в том, что должность в ЦБ РФ не мешала им получать жалованье еще и в иностранных банках. Например, заместитель председателя Центробанка Денис Киселев получил в августе дополнительную зарплату в сумме 1 млн. песет у одного банка, находящегося в Люксембурге. На запрос Думы Дубинин подтвердил это".

